**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 42 (758) 16 кастрычніка 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Восеньскі кірмаш у Глыбокім.**
*На мерапрыемства завітаў кіраўнік раёна А.В. Морхат.*
Фота Ул. Скрабатуна.

**Дубровенскі раён**

# Кацёл палыхнуў ноччу

■ Станіслаў Раманчук

**Ацяпляльны сезон заўжды быў сур’ёзным экзаменам для народнай гаспадаркі і асабліва для камунальных служб.**

У гэтым годзе на Віцебшчыне ў вызначаныя тэрміны пашпарты гатоўнасці да працы ў халодны перыяд года атрымалі ўсе спажыўцы і перашакрыніцы цяпла. На некалькі дней пазней, чым летась, у вобласці падалі цяпло ў школы, дзіцячыя садкі, бальніцы, установы сацыяльнай сферы, а потым і ў жылы фонд.

А вось у райцэнтры Дуброўна ацяпляльны сезон пачаўся з прыкрага здарэння. У адну гадзіну ночы там на адной з кацельных райкамунгаса пачаўся пажар пасля выбуху і механічнага разрыву катла. Полымя пашкодзіла дзверы кацельнай, электраправодку, суседнія пакоі памяшкання. На начной змене дзяжурылі двое качагараў і, на шчасце, ніхто з іх не пацярпеў. Аднак без падачы цяпла засталіся жыхары мікрараёна ў раёне абноўленага ільнозавода і шэраг устаноў. Раніцай прыйшлі ў халодны садзік № 2 дзеці. Астылі за ноч батарэі ацяплення і ў будынку тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, у якім жывуць адзінокія састарэлыя людзі. Праўда, аварыйныя брыгады аператыўна працавалі над ліквідацыяй наступстваў аварыі. Ужо раніцай аднавілася падача цяпла дзецям і пажылым ветэранам, крыху пазней стаў зноў абагравацца жылы фонд. Пажар на кацельні райцэнтра нагадаў, што ў далейшым паўсюдна значна болей трэба выдзяляць грошай на замену і абнаўленне цеплатрас і абсталявання на кацельнях са значным тэрмінам іх эксплуатацыі.

**Пастаўскі раён**

# Няма таго, што раней было

■ Кастусь Александровіч

**Нягледзячы на ўсе намаганні дзяржавы, сітуацыя ў многіх гаспадарках краіны застаецца вельмі складанай.**

Вось і ў Пастаўскім раёне на сярэдзіну кастрычніка прызначылі пазачарговы агульны сход акцыянераў ААТ “Камайскі-агра” па пытанні яго рэарганізацыі шляхам далучэння да мясцовага малочнага завода. А гэта ж адна з буйнейшых гаспадарак Беларусі з колькасцю працуючых больш 600 чалавек і з 13 тысячамі гектараў сельгасугоддзяў. У мінулым ёй нават 27 гадоў плённа кіраваў заслужаны работнік сельскай гаспадаркі РБ Баляслаў Шылько і вывеў у лік 60 базавых у краіне па дасягненні ўзроўню эфектыўнасці флагмана-агракамбіната “Сноў” Нясвіжскага раёна. Але калі ён пакінуў сваю пасаду, пачалася кадравая чахарда, а гаспадарка паступова звалілася да ўзроўню гаротнай, ледзь-ледзь зводзіць канцы з канцамі. Састарэла абсталяванне на буйным свінакомплексе на 16 тысяч галоў свіней. Дапрацаваліся да таго, што іх зімой не было чым карміць, а потым з-за пагрозы АЧС большую частку пагалоўя прыйшлося прырэзаць. Камайцам прыходзіцца няпроста, што ў іх цэлых 5 аддзяленняў, калісьці далучаных калгасаў-банкрутаў, і кожны з іх стаў цягнуць “коўдру на сябе”. Дарэчы, у раёне яшчэ існуе шэраг адстаючых гаспадарак і іх далейшы лёс вырашылі змяніць па праверанай схеме, далучыць да больш паспяховых суседзяў. А вось Віцебскі лікёра-гарэлачны завод “Прыдзвінне” неўзабаве можа атрымаць сабе ў падпарадкаванне нават двух гаротнікаў, сельгаспрадпрыемствы “Янавіцаагра” і “Блакітныя азёры”, землі якіх размешчаны паблізу літоўскай граніцы.

**Аршанскі раён**

# Пабуяніў апошні раз

■ Чэслаў Якубовіч

**Вось ужо працяглы час Аршанскі рэгіён мае сумную славу аднаго з самых крымінагенных у вобласці.**

Тут, магчыма, з-за блізасці да расійскай граніцы і яшчэ наяўнасці папраўчай калоніі для небяспечных злачынцаў пастаянна фіксуюцца правапарушэнні з цяжкімі наступствамі. Днямі ў горадзе зафіксавалі другі па ліку выпадак прымянення міліцыяй агнястрэльнай зброі з гібеллю зламысніка. Спачатку, як вядома, у беларускай сталіцы пасля нападзення на абменны пункт і ўзяцця дзяўчыны-касіра ў закладнікі быў смяртэльна паранены падчас штурму малады рабаўнік. У Оршы падзеі разгортваліся позна вечарам па іншым сцэнарыі. Там у кватэру сваёй былой жонкі пачаў ламіцца не былы 41-гадовы муж. Ён меў пэўныя псіхічныя расстройствы, нідзе не працаваў, а жыў разам з бацькамі. Перапужаная жанчына адразу выклікала нарад міліцыі з участковым. Вартавыя правапарадку з паўгадзіны спрабавалі дэбашыра з нажом угаварыць супакоіцца, але гэта яго толькі больш узрушыла. Узнікла небяспека і для астатніх жыхароў пад’езда, прыйшлося буяна заблакіраваць паміж паверхамі. Пры спробе спыніць злачынныя дзеянні мярзотнік стаў пагражаць нажом людзям у форме і нават кінуўся на іх, нанёс некалькі ўдараў па супрацоўніку міліцыі. У такой сітуацыі нічога не заставалася, як стрэліць па нападаўшым. На жаль, гэта куля аказалася для злачынцы смяртэльнай і неўзабаве брыгада “хуткай дапамогі” зафіксавала ягоную смерць. Быў шпіталізаваны і пацярпелы міліцыянер, але яго жыццю і здароўю пасля аказання меддапамогі нічога не пагражае. Прымяненне зброі ў такой сітуацыі, верагодна, поўнасцю апраўданае.

# Аб самым надзённым

## ВАЙНА САНКЦЫЙ РАСІІ З ЗАХАДАМ УЖО СТВАРЫЛА ВЯЛІЗНЫЯ ЦЯЖКАСЦІ СА ЗБЫТАМ ПРАДУКЦЫІ ДЛЯ МАЗА І ІНШЫХ ВЫТВОРЦАЎ




■ Аляксандр Цішкевіч

**Беларускі аўтагігант вымушаны перайсці на няпоўны працоўны тыдзень, уступіў у перыяд стагнацыі і зніжэння заробкаў аўтазаводцаў. Эксперты прагназуюць, што з МАЗа пачнуць звальняцца лепшыя кадры і пераходзіць на суседні завод калёсных цягачоў, альбо на “Амкадор”, дзе лепш ідуць справы.**

Сёлета шавіністычная палітыка нашай суседкі на Усходзе па абароне інтарэсаў так званага “русского мира” ўстрывожыла не толькі еўрапейцаў, але і астатні свет. Мы жывём па суседству і маем адносіны саюзнікаў з ядзернай дзяржавай, якая ўжо колькі часу нахабна хлусіць чалавецтву, што ў Луганскай і Данецкай абласцях Украіны нібыта няма пераадзетых расійскіх воінскіх часцей, а на Данбасе ваююць быццам толькі расійскія патрыёты-добраахвотнікі падчас сваіх водпускаў.

Асобныя рускія апусціліся да такога ўзроўня адзічэння, што адзін з іх вядомых адыёзных прафесараў з барадой папа Дугін адкрыта заяўляе, што “украінцаў трэба забіваць, забіваць і забіваць…”. У прамым тэлеэфіры дзяржаўнага тэлеканала можна пачуць і выказванне ў запале палемікі яшчэ аднаго “дзеяча”, прыхільніка міфічнай “Навароссіі”, што ўкраінскага прэзідэнта П. Парашэнку “трэба абавязкова павесіць!”. Што такім мярзотнікам у чалавечым абліччы да таго, што расійская эканоміка стала загібацца, што іх рубель страшна абваліўся з пачатку года, а больш 5 мільёнаў рускіх людзей не маюць працы, а ў расійскай глыбінцы поўнае запусценне, галеча і там можна здымаць фільмы жахаў.

Не трэба наіўна думаць, што гэты канфлікт Расіі з цывілізаваным светам, развязаная Крамлём гібрыдная вайна беларусаў не зачэпяць, не адаб’юцца на нашай краіне. Праўда, дзякуючы ўзважанай, разумнай палітыцы кіраўніцтва Беларусі па ўкраінскім пытанні мы пакуль мелі толькі станоўчыя знешнепалітычныя дывідэнты. Таксама адчувальна падняўся рэйтынг падтрымкі насельніцтвам А. Лукашэнкі, які ў нядаўнім інтэрв'ю тэлеканалу “Еўраньюс” заявіў аб нават гатоўнасці паслаць міратворчы кантынгент беларускіх войск ва Украіну.

Аднак гэта была няпростая прапанова, бо там, у неспакойным Данбасе маглі б гінуць і нашы маладыя хлопцы, але яна не была прынята кіраўніцтвам суседняй Украіны. Афіцыйны Кіеў праз сваё МЗС заявіў, што ніякіх міратворчых сіл уводзіць не трэба, а вось Расіі належыць вывесці свае ваенныя падраздзяленні з украінскай тэрыторыі, а – тэрарыстам трэба выконваць мінскія дамоўленасці па спыненні агню і абмене закладнікамі. “Апалчэнцы” – баевікі замест міру, праўда, рэгулярна штурмавалі данецкі аэрапорт, працягвалі гэту бэссэнсоўную, злачынную вайну.

Вядома, што калі вядуцца баявыя дзеянні, то церпіць эканоміка, бяднеюць людзі. На жаль, апошнюю акалічнасць ужо на сабе адчулі работнікі аднаго з буйнейшых айчынных прадпрыемстваў, Мінскага аўтазавода. З пачатку года там сёлета больш чым на трэць (на 33,2 %) знізіліся аб’ёмы выпуску прадукцыі ў параўнанні з адпаведным перыядам 2013 года. У пачатку восені на заводскай тэрыторыі знаходзіліся непрададзеных 2150 беларускіх грузавікоў МАЗ, гэта перавысіла сярэднемесячныя аб’ёмы вытворчасці за цэлы квартал. А чаму тут здзіўляцца, бо расійскі рынак збыту – адзін з важнейшых для нас па многіх таварных пазіцыях.

Вось толькі ў самой матухны Расіі цяпер сур’ёзныя эканамічныя цяжкасці, пачала балюча сказвацца на расіянах пуцінская палітыка “ўстаць з кален і паказаць Захаду ягонае месца”. А што ў выніку атрымалася? Сёлета пачалі зніжаца сусветныя цэны на нафту і адразу ўзніклі праблемы з напаўненнем расійскага бюджэту, знізілася пакупніцкая здольнасць нашых партнёраў. Тыя ж МАЗы многія фірмы куплялі ў нас пад дзяржаўныя гарантыі закупак. Штомесяц падалі аб’ёмы прадаж, увогуле расійскі аўтамабільны рынак і не толькі знізіўся, рускія сталі зацягваць паясы, а ўслед за імі на сталічным аўтазаводзе зменшыліся заказы на іх прадукцыю.

Беларускі аўтагігант вымушаны перайсці на няпоўны працоўны тыдзень, уступіў у перыяд стагнацыі і зніжэння заробкаўаўтазаводцаў. Эксперты прагназуюць, што з МАЗа пачнуць звальняцца лепшыя кадры і пераходзіць на суседні завод калёсных цягачоў, альбо на “Амкадор”, дзе лепш ідуць справы. Тым часам у нас зноў падаражэла аўтамабільнае паліва і ўвогуле цэны працягваюць расці. А вось мінчанаўтамабілістаў можа парадаваць, што прадстаячай зімой у беларускай сталіцы дарогі замест солі плануюць пасыпаць рэагентамі на аснове адходаў, якія атрымоўваюцца пры вырабе цукру. Эксперыментальныя пробы такой сумесі паказалі добрыя вынікі, бо не назіралася карозіі металу ад цукровай сумесі.

Таксама ў гэтым месяцы зноў жа з-за Расіі, дакладней яе падатковых закрытых манеўраў у нафтавай сферы, у нашай краіны ўзніклі праблемы з прыняццем дзяржбюджэту на будучы год. Калі Крэмль пойдзе на такі крок без уліку інтарэсаў беларускага боку, то страты Беларусі ў выбарны год складуць каля 1 млрд. долараў. Першы беларускі віцэ-прэм’ер У.Сямашка паляцеў у белакаменную, каб дасягнуць кампрамісу ў гэтым пытанні. Атрымліваецца прыкрая гісторыя: яшчэ не паспеў толкам запрацаваць Еўразійскі эканамічны саюз, а расійскія ўлады выкінулі нам чарговы эканамічны выкрунтас, бо падобна на тое, крымская і данбаская авантуры ўсё ж вылазяць для Крамля дрэнным бокам.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 16.10.14 | | | | Пятніца 17.10.14 | | | | Субота 18.10.14 | | | | Нядзеля 19.10.14 | | | | Пн.20.10. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +8 | +7 | +9 | +5 | +3 | +2 | +5 | +2 | 0 | 0 | +4 | +1 | 0 | 0 | +4 | +1 | +4 | +7 | +12 |
| Ціск | 740 | 740 | 740 | 740 | 741 | 742 | 744 | 746 | 749 | 753 | 755 | 756 | 756 | 755 | 752 | 748 | 743 | 737 | 734 |
| Вільготнасць | 92 | 96 | 77 | 90 | 87 | 91 | 66 | 80 | 76 | 76 | 56 | 75 | 83 | 93 | 64 | 92 | 93 | 99 | 89 |
| Вецер м/сек | 3 | 4 | 3 | 5 | 5 | 5 | 4 | 4 | 4 | 6 | 4 | 1 | 1 | 1 | 5 | 5 | 4 | 2 | 3 |
| | Пн | Пн-У | Пн-У | Пн-У | Пн-У | Пн | Пн | Пн | Пн | Пн | Пн | Пн | Пн | Пд | Пд-З | Пд | Пд-З | Пд-З | Пн-З |

## Дзень за днём

**Беларусь атрымала чарговы расійскі крэдыт у памеры 1,55 млрд USD. Знешні доўг краіны вырас за 8 месяцаў яшчэ на 4,6 % да 13,2 млрд. USD, а ўнутраны – яшчэ болей, на 14,3 %. Меней чым праз месяц для беларусаў чацвёрты раз сёлета падаражэла паліва для аўтамабіляў. Для беларускіх НПЗ з 2015 года падаражэе расійская нафта. Амаль 1,3 млн. беларусаў (40 % працуючых) сталі зарабляць меней 500 долараў. Яшчэ болей замежных грамадзян сталі адпачываць у беларускіх здраўніцах. Падчас купальнага сезона ўтапілася 248 чалавек, з іх 18 дзяцей. Беларусам сталі выдаваць 2-гадовыя турыстычныя візы ў Польшчу.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Дзякуючы найноўшым тэхналогіям здабычы нафты краіна выйшла ў сусветныя лідары на фоне падзення цэн на "чорнае золата", гэта вельмі аслабіць эканоміку Расіі.

**Іспанія.** Канстытуцыйны суд краіны прыпыніў дзеянне дэкрэта ўлад Каталоніі аб правядзенні 9 лістапада рэферэндума аб незалежнасці аўтаномнага краю.

**Расія.** Крамлю не спадабалася заява А. Лукашэнкі, што Беларусь не жадае разбурэння Украіны і не прызнае ДНР і ЛНР і што Крым РФ не належыла адбіраць у украінцаў.

**Украіна.** Генпракуратура краіны расцаніла дзеянні шэрагу супрацоўнікаў Следчага камітэта РФ, як пасобніцтва тэрарыстам у Данбасе, і распачала супраць іх справу.

**Расія.** Медыя-холдынг РБК сабраў звесткі, як у Данбасе ваююць і гінуць тысячы расійскіх дэсантнікаў і салдат, афіцыйна яны лічыліся на "вучэннях" у Растоўскай вобласці.

**Бельгія.** На сваёй сустрэчы ў Брусэлі пасы дзяржаў Еўрасаюза пакінулі ў сіле ўсе санкцыі супраць Расіі, якая не змяняе сваю агрэсіўную палітыку супраць Украіны.

**Расія.** Не раней 2025 года, як паведаміла супрацоўніца Мінэканомразвіцця РФ А. Сысоева, у Еўразійскім саюзе можа з'явіцца агульная валюта дзяржаў садружнасці.

**Фінляндыя.** Прэм'ер-міністр А. Стуб заявіў, што Захаду трэба перагледзець сваё ранейшае стаўленне да Расіі, пачаць ціснуць на яе жорсткімі эканамічнымі санкцыямі.

**Латвія.** На выбарах у Сейм хоць і перамагла прарасійская партыя "Согласие", але правячая ўрадавая кааліцыя захавала свае пазіцыі і набрала значна болей галасоў.

**Францыя.** Міжнародная арганізацыя крымінальнай паліцыі (Інтэрпол) адмовіла Расіі аб'явіць у міжнародны вышук главу Днепрапятроўскай вобласці І. Каламойскага.

**Іран.** Краіна не дамовілася з Азербайджанам і Туркменістанам на саміце ў Астрахані аб прававым статусе Каспійскага мора, галоўная праблема Каспія зноў не вырашылася.

**Расія.** Самаабвешчаная "Наваросія" з маргінальных ДНР і ЛНР, як спрагназавала "Независимая газета", пратрымаюцца да вясны, у яе няма надзейнай асновы і эканомікі.

**Літва.** Да 2038 года адклаў урад краіны заканчэнне работ па кансервацыі закрытай Ігналінскай АЭС з-за праблем па ўзвядзенні сховішча для яе радыёактыўных адходаў.

**Бельгія.** Еўрапейскае агентства па авіяцыйнай бяспецы дазволіла авіякампаніям не забараняць пасажырам карыстацца мабільнікамі падчас узлёту, пасадкі самалёта.

**Англія.** Наследны прынц Уільям з жонкай Кейт вырашылі назваць свайго другога дзіця – дзяўчынку Дзіянай у гонар загінуўшай бабулі, у іх ўжо расце сын Джордж.

**Нарвегія.** Краіна адклікала сваю заяўку на правядзенне ў Осла зімовай Алімпіяды 2022 года з-за высокіх затрат, адмовіліся таксама Стакгольм, Кракаў і Львоў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** У інтэрв'ю тэлеканалу "Еўраньюс" А. Лукашэнка заявіў пра гатоўнасць накіраваць на Украіну беларускую армію, каб развесці там ваюючыя канфліктуючыя бакі.

**Мінск.** Былы суддзя Канстытуцыйнага суда РБ М. Пастухоў папярэдзіў, што дагавор аб членстве ў ЕўрАзЭС нясе прамую пагрозу суверэнітэту і незалежнасці нашай краіны.

**Масты.** Са спазненнем на год з новай лініі па выпуску пліт МДФ сышла першая драўнінавалакністая пліта, мадэрнізацыю вытворчасці тут пачалі яшчэ ў 2007 годзе.

**Барысаў.** Былога гендырэктара ААТ "Барысаўдрэў" У. Мальцава пачалі судзіць у Мінскім абласным судзе за зрыў тэрмінаў мадэрнізацыі, якую не могуць завяршыць ужо 7 гадоў.

**Мінск.** Нават калі эканоміка Расіі будзе ў крызісе, а расіяне – цярпець няўзгоды, як заявіў палітолаг Андрэй Ягораў, Крэмль не адмовіцца ад падтрымкі свайго сатэліта ў Беларусі.

**Ліда.** У 116-й авіябазе пачалі працу следчыя і камісія Міністэрства абароны РБ па высвятленні прычын падзення ваеннага самалёта Су-25, лётчык катапультаваўся, жывы.

**Мінск.** На сталічным МАЗе сталі прастойваць некаторыя падраздзяленні, працаваць 3-4 дні на тыдзень, загружана поўнасцю толькі вытворчасць айчынных аўтобусаў.

**Бабруйск.** Дырэкцыя завода трактарных дэталяў і агрэгатаў звольніла яшчэ двух вопытных наладчыкаў за членства ў Свабодным прафсаюзе, хоць з кадрамі праблемы.

**Мінск.** Лідар грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду" У. Някляеў з актывістамі перадалі ў парламент 50 тысяч сабраных подпісаў за правядзенне рэферэндуму па 6 пытаннях.

**Кіраўск.** Супраць намесніка галоўнага ўрача ЦРБ распачалі крымінальную справу за атрыманне 200 долараў хабару за ліпавы дыягназ, які дапамог пазбегнуць прызыву.

**Жлобін.** На перакрыжаванні двух вуліц горада другі раз сёлета перакулілася машына "хуткай дапамогі" зноў пасля сутыкнення з ліхачом на іншамарцы.

**Масты.** Следства ўстанавіла, што на абменны пункт у Мінску напаў 23-гадовы жыхар раёна і ўзяў закладніцу, 18-гадовую мінчанку, злачынца памёр потым ад ранення.

**Барысаў.** Расійскія журналісты пацвердзілі факт гібелі барысаўчанкі Н. Красоўскай, яна ваявала снайперам на баку баевікоў у Данбасе і хацела адмовіцца ад грамадзянства РБ.

**Асіповічы.** У райбальніцы памёр 61-гадовы пенсіянер з вёскі Копча, які рэгулярна карміў выходзіўшага з лесу аленя, а той яго смяротна параніў ударамі рог у жывот.

**Мінск.** Абутковы холдынг "Луч" вырашылі перанесці з цэнтра сталіцы за МКАД, а "Камволь" і "Сукно" аб'ядналь у адно прадпрыемства па вытворчасці розных тканін.

## У Беларусі ўводзяць адказнасць за ўжыванне наркотыкаў



■ TUT.BY

**Новыя змены ў заканадаўстве размяжуюць адказнасць за ўжыванне алкаголю і наркотыкаў або псіхатропаў. Папраўкі ў законапраект прадугледжваюць штраф за з'яўленне ў стане наркатычнага ап'янення ў грамадскім месцы і на працы. Зробяць больш жорсткім і пакаранне для стваральнікаў так званых наркалабараторый.**

За з'яўленне ў грамадскім месцы пад дзеяннем наркотыку, псіхатропу, аналага або прэкурсоры (без прызначэння лекара) увядуць штраф ад 5 да 10 базавых велічынь. Знаходжанне на працоўным месцы ў стане наркатычнага або таксікаманічнага ап'янення пацягне на штраф у памеры ад 8 да 12 базавых велічынь, паведамляецца на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

За спажыванне наркотыкаў, псіхатропаў, аналагаў і прэкурсораў у грамадскім месцы - штраф ад 10 да 15 базавых велічынь.

Тыя ж дзеянні, учыненыя паўторна на працягу года пасля накладання адміністрацыйнага арышту, будуць караццa штрафам у памеры ад 15 да 20 базавых велічынь альбо адміністрацыйным арыштам.

«Гэтыя меры стануць свайго роду прафілактыкай у дачыненні да наркаспажыўцоў на пачатковым этапе, дзякуючы чаму яны, магчыма, не апынуцца клiентамі папраўчай установы», - кажа дэпутат і куратар рабочай групы па падрыхтоўцы дакумента з зменамі Васіль Аляксеенка.

Плануецца таксама ўвесці механізм, які дазволіць у кароткі тэрмін прызнаваць хімічныя рэчывы наркотыкамі і забараняць іх абарот. Мяркуецца, што на працягу сутак пасля выяўлення рэчыва яго будуць забараняць. Над аператыўным рашэннем будуць працаваць прадстаўнікі Міністэрства ўнутраных спраў, Міністэрства аховы здароўя і Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз.

Плануецца ўвесці паняцце «базавая структура» пры аднясенні да аналагаў наркатычных рэчываў, што ставіць па-за законам любыя іх варыяцыі. Маецца на ўвазе структура хімічнага рэчыва, у выніку мадыфікацыі якой утвараецца некалькі формул наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў.

«Гэта значыць, устанаўліваецца забарона на ўсе сумнеўныя рэчывы і сумесі. У тым ліку пад забароны аўтаматычна трапяць сінтэтычныя канабіноіды, у народзе званыя спайсамі. Пакуль жа іх статус не вызначаны: яны афіцыйна не дазволеныя, але і не забароненыя. Паняцце» базавая структура «дасць магчымасць прызнаць любыя мадыфікацыі наркотыкамі і псіхатропамі і ўсталяваць забарону на іх абарот, што дасць магчымасць вырашаць многія пытанні ў бліжэйшай перспектыве «, - растлумачыў сураззмоўца.

Яшчэ адно новаўвядзенне датычыцца ліквідацыі так званых наркалабараторый. Іх уладальнікі атрымаюць ад 2 да 5 гадоў пазбаўлення волі. А за дзеянні, спалучаныя з вырабам, перапрацоўкай наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў або іх прэкурсораў і аналагаў з выкарыстаннем лабараторнага посуду або лабараторнага абсталявання, прызначаных для хімічнага сінтэзу, караюцца пазбаўленнем волі на тэрмін ад 10 да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** У 3 пробах каўбасных вырабаў мясцовага мясакансервавага камбіната спецыялісты ветэрынарнай службы Бранскай вобласці знайшлі быццам геном афрыканскай чумы свіней.

**Наваполацк.** Да канца 2015 года па праграме свайго развіцця і мадэрнізацыі ААТ "Нафтан" накіруе яшчэ 900 мільёнаў долараў уласных сродкаў і крэдытных рэсурсаў банкаў.

**Віцебск.** Больш 450 пажылых старых у 18 раёнах вобласці пераззімуюць у халады ў дамах сумеснага пражывання, іх там будуць абслугоўваць сацыяльныя работнікі.

**Ушачы.** За забойства зімой прадаўца магазіна ў раённым цэнтры суд пакараў 45-гадовага тройчы судзімага 22 гадамі калоніі строгага рэжыму, яго будуць лячыць ад алкагалізму.

**Новалукомль.** На мясцовай ГРЭС завяршылі мантаж 9-га па ліку рэзервавага энергаблока, магутнасці станцыі выраслі яшчэ на 50 МВт, яна дае трэць усёй электраэнергіі Беларусі.

**Дуброўна.** Супрацоўнікі Следчага камітэта пачалі вышук зламысніка, які метадам фоташопа зняславіў школьніцу на яе старонцы ў сацыяльнай сетцы Інтэрнэту.

**Глыбокае.** У раённым цэнтры арыштавалі 33-гадовага прадпрымальніка, які завінаваціў банку 236 мільёнаў рублёў, раней яго штрафавалі за аказанне паслуг будаўніцтва без рэгістрацыі.

**Полацк.** На трасе на Віцебск затрымалі п'янага кіроўцу з чужымі правамі, ён назваўся чужым прозвішчам, будзе пакараны і пазбавіцца свайго аўтамабіля, бо зноў ехаў п'яны.

**Браслаў.** З удзелам расійскага капіталу паблізу гарадскога пасёлка Відзы аднавяць старажытную сядзібу рода Ваўжэцкіх, яна здаўна славілася сваімі серавадароднымі крыніцамі.

**Наваполацк.** Пад вечар на адной з вуліц горада 20-гадовы матацыкліст-байкер збіў 60-гадовага пешахода, які праз 7 гадзін пасля здарэння памёр у гарбальніцы.

**Орша.** Днём на цэнтральнай станцыі загарэўся грузавы цягнік Расійскай чыгункі, пацярпеў адзін з праваднікоў поезда, яго змясцілі на лячэнне ў гарадскую бальніцу.

**Бешанковічы.** У райцэнтры пачалі ўзводзіць сучасны ФАК коштам 90 мільярдаў рублёў з двума басейнамі, гасцініцай і кафэ, здаць аб'ект плануецца ў 2016 годзе.

**Наваполацк.** Глава горада Наталля Качанава наведала з падарункам самую пажылую жыхарку Віцебшчны Марыю Заблоцкую, якая адзначыла 112 год з дня нараджэння.

**Віцебск.** Да 90-годдзя беларускага кіно ў кінатэатрах горада пачаўся трохмесячны паказ лепшых 16 айчынных фільмаў, гледачы ўбачаць і працяг культавай стужкі "Белыя росы".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Глыбоцкая Атлантыда

# “Як убачыш дом са шпілем: прыйшлі, мы – дома!”

■ Уладзімір Скрабатун


Narodowe Archiwum Cyfrowe, sygn. 1-S-3285

Будаўніцтва прыстані на возеры Беразвецкім (Вялікім), верасень 1934 г.

### Глыбоцкая Атлантыда – Прыстань на возеры Беразвецкім

Даўно марыў знайсці зблізку якаснае фота будынка прыстані на возеры Беразвецкім, апытаў дзясяткі старажылаў. Але тое, што прапаноўвалі, не задавальняла. Будынак хоць часам і трапляў у кадр, але знаходзіўся недзе воддаль і фрагментальна. Не было поўнай карціны. Адзіным здымкам, які даваў хоць нейкае ўяўленне аб прыстані, была старая паштоўка “Głębokie. Przystań. Jezioro Berezweckie” (гл. унізе справа).

Аднак, калі доўга шукаць, знойдзеш альбо дапамогуць знайсці. Нядаўна здымак глыбоцкай прыстані з’явіўся на сайце Нацыяльнага Лічбавага Архіву (Польшча). Здымак датаваны вераснем 1934 года, на ім адлюстраваны будынак прыстані ў стане будаўніцтва.

Прыстань, зразумела, пабудавалі не для прыбыцця пасажырскіх параходаў, гэта была лодачная станцыя і месца адпачынку глыбачанаў з пляжам і валейбольнай пляцоўкай. Сам будынак прыстані, як можна меркаваць па здымку, узводзіўся ў традыцыях народнага дойлідства, а менавіта ў папулярным тады “закапанскім стылі”. Курортнае дойлідства!

### Як убачыш дом са шпілем..

Аўтар гэтых радкоў вырашыў завітаць да Алы Васільеўны Булах, настаўніцы пенсіянеркі. Яна здаўна жыве ў доме па Савецкай, 59. Дамы №№ 57і 59 стаяць на падмурках старой прыстані.

*– Ала Васільеўна, з якога года вы жывяце ў доме №59? Тут была прыстань. Вы яе памятаеце?*

– Я добра памятаю гэты дзень! У 1950-м мне было 6 гадоў. Прыехалі мы ў Глыбокае цягніком з Лётцаў, выйшлі на чыгуначнай станцыі. Ішлі пешшу, 3-гадовага брата бацькі неслі на руках, а я 6-гадовая – вялікая ўжо – ішла пешшу.

Мы ішлі, як мне тады падавалася, бясконца доўга. Я вельмі стамілася! Увесь час прасіла адпачыць. Ну, калі ж мы, нарэшце, прыйдзем! Не магу больш ісці!

– Як убачыш дом са шпілем: прыйшлі, мы – дома!– супакойвае маці.

І вось, нарэшце, дайшлі мы да скрыжавання Савецкай з Вольнай і я ўбачыла такі чаканы дом са шпілем, яшчэ крокаў дзвесце...

### Жылі як у вуллі

– У гэтым доме, які некалі называлі прыстань, з 1947 г ужо жыла мая бабуля, якая ў ваенныя ліхалецці патрапіла ў Літву і вымушаная была пасля вайны вярнуцца на Беларусь, бо: альбо малодшага сына (майго дзядзьку) ваенкамат мабілізуе на барацьбу з “ляснымі братамі”, альбо “лясныя браты” наадварот мабілізуюць яго на барацьбу з чэкістамі. Прыходзілі і тыя, і гэтыя...

Прыстань ўяўляла сабой: галоўны 2-павярховы будынак – па цэнтру і двух бакавых флігеляў на высокіх падмурках з цясаных камянёў, і ліштвамі з чырвонай цэглы. Флігелі былі звязаныя з асноўным будынкам галерэямі (пераходамі). У нашым флігелі жыло тры сям’і, у суседнім – дзве. У цэнтральным будынку – шмат сем’яў, на першым паверсе – казарма, жылі савецкія салдаты “срочнікі”. Агулам кажучы – вулей! Каб адгарадзіць сям’ю ад сям’і рабілі перабойкі з дошак, паміж імі засыпалі апілкі, а сцены абклейвалі шпалерамі. Як потым, праз колькі гадоў, высветлілася – за дошкамі ўжо нічога не было, усё “стачылі” пацукі і мышы.

Паступова людзі адсяліліся, бо пабудавалі сваё ўласнае жыллё, наша сям’я засталася, дзе жывём і сёння. Але наш флігель застаўся не ад прыстані, а – новы, 15 м³ лесу пайшло на рэканструкцыю.

### Першая асоба ў Глыбокім – ваенком, а не райком.

*– Будынак прыстані ўзвялі ў 1934-м, ну, няхай канчаткова скончылі ў 1935-м, г.зн у 1950-м яму было ўсяго 15 гадоў! Фактычна, навюткі! Мог і сёння стаяць, ды яшчэ з ахоўнай шыльдай “Помнік архітэктуры”. Дык чаму яго знішчылі?*

– Валодзя, ты ж зразумей – у тыя часы галоўнай асобай у раёне быў не райком, а – ваенком. Усе надзённыя пытанні вырашаліся з ваенкомам, ну й, хіба што, ваенкому і няслі дарункі, а не першаму сакратару... Не магу сцвярджальна сказаць, бо малая была, але ўсе дарослыя “шушукаліся” – будынак прыстані разабралі, бо бярвенні спатрэбіліся ваенкому для пабудовы дома. Ваенкомам тады быў Бабкоў. Разабралі ў 1952-м, ці 1953-м.

### Ленінградскія партызаны “наламалі дроў”

Пасля вайны Глыбокім у бальшыні сваёй кіравалі людзі з глыбіннай Расіі, ветэраны вайны, бо мясцовым “западэнцам” не давяралі, усё ж 18 гадоў пражылі пад Польшчай. Гэты факт не прамінялі заўсёды падкрэсліць і нашыя старажылы. Прыехалі ж сюды людзі з “бедных слаёў грамадства”, г.зн. пралетарыі. А што зробіць бедны? Ён можа толькі забраць у багатых, прытым, што багатых ужо знішчылі! І якую культуру яны прынеслі з сабой у дадатак?

Не буду акцэнтаваць на факце разбурэння беразвецкай Петрапаўлаўскай царквы, гэта асобная тэма, і ёсць надзея, што мы яе некалі, усё ж, адбудуем. Пытанне ў іншым... Усё Глыбокае забудаванае з парушэннем санітарных і экалагічных нормаў. Просты прыклад – за стаянку вашага аўта бліжэй за 30 метраў ад вадаёма за межамі горада вы атрымаеце штраф.

*Заканчэнне на стар. 11*




**Глыбокае. Прыстань. Возера Беразвецкае.** *Паштоўка 1930-х гг, выдавец У. Уладзіміраў.*

**P.S.** Канец 1930-х гг, чыстае прыгожае возера! Шаноўныя чытачы, раю Вам прыйсці сёння на тую ж кропку, адкуль зроблены гэты здымак (яўрэйскія могілкі ля рынку) і параўнаць. Сённяшняя карціна прывядзе Вас у шок! Ад цэнтра здымка ў правы бок – усё зарасло чаротам і трыснягом. Возера загубілі, яно ператвараецца ў балота!

Унізе – амаль той самы ракурс. Амаль, бо цяпер усё зарасло дрэвамі, немагчыма знайсці тую самую кропку фатаграфавання. Аднак, звярніце ўвагу, – возера сапраўды зарастае. Гэта – вынік углыблення ракі Беразвіцы ў Барку па выхадзе з азёраў Падлазнае і Беразвецкае (Вялікае).





На возеры Беразвецкім, 1930-я гг.

# Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі адзіныя для ўсіх

**Восень цалкам уступіла ў свае правы, дні становяцца ўсё карацейшымі, ночы даўжэйшымі і цямнейшымі. З палёў прыбіраюць апошні ўраджай, у гэты час дзікія жывёлы актыўна мігруюць у пошуках ежы, асабліва кукурузных палёў. Менавіта, у асенні час, часцей за ўсё начны, кіроўцы трапляюць у непрыемныя сітуацыі, звязаныя з дарожна-транспартным здарэннем, з раненнем або гібеллю жывёл, пашкоджаннем аўтатранспарту.**

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*




Таму кіроўцам неабходна быць асабліва ўважлівымі пры пераездзе ўчасткаў лясных масіваў, паблізу збожжавых і кукурузных палёў. Калі ж здарылася ДТЗ з удзелам дзікай жывёлы, то кіроўца павінен у першую чаргу паведаміць аб тым, што здарылася, у найбліжэйшы аддзел унутраных спраў. Дзяжурны АУС накіруе да месца ДТЗ бліжэйшы нарад ДАІ, паведаміць прадстаўнікам прыродаахоўных органаў (лясгас, дзяржаўную інспекцыю, карыстальнікаў паляўнічых угоддзяў), на ўчастку якіх адбылося ДТЗ, паколькі жывёла, што загінула, з'яўляецца уласнасцю арандатара паляўнічых угоддзяў.

Кіроўца ці яго пасажыры ні пад якімі-небудзь прычынамі не маюць права забіраць тушу загінулай дзікай жывёлы, ажыццяўляць разделку або перавозку тушы дзікай жывёлы без адпаведных дакументаў. Гэтыя дзеянні з'яўляюцца парушэннем прыродаахоўнага заканадаўства, за якое прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць па ч.2 арт. 15.37 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Аб адміністрацыйных правапарушэннях» «Парушэнне правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання», штраф у памеры да 30 базавых велічынь.

Шмат у каго з грамадзян слушна ўзнікае пытанне: “Мая машына разбіта, я сам пацярпеў ад дзікай жывёлы, а яшчэ і магу стаць вінаватым, так?” Закон выразна рэгламентуе правілы паводзінаў у дадзеным выпадку. Таму, каб неяк кампенсаваць затраты на аднаўленне машыны, неабходна застрахаваць сваю маёмасць, захоўвайце хуткасны рэжым у месцах верагоднага з'яўлення дзікіх жывёл, будзьце ўважлівыя на дарозе, асабліва ў начны час і пры дрэнным надвор'і.

Каб не парушыць прыродаахоўнае заканадаўства і не стаць міжвольным парушальнікам, неабходна строга выконваць закон. Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання адзіныя для ўсіх грамадзян.

***

**Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8-02156-28670 - «гарачая лінія» кругласутачна, 890-55-28, 897-23-02, 249-45-49.**

## Прафсаюзнікі: На «Шкловалакне» начальнік цэха загадаў спаліць у печы кацянят

Пра гэты выпадак распавялі актывісты суполкі Свабоднага прафсаюзу беларускага, да іх звярнуліся са скаргамі працаўнікі прадпрыемства ў Полацку.

Віктар Стукаў, кіраўнік незалежнай прафсаюзнай суполкі, лічыць здарэнне неапраўданай жорсткасцю:

«На прадпрыемстве жыла кошка, у яе з'явіліся кацяняты. Іх падкармлівалі, шкадавалі, і па вялікім рахунку, жывёлы нікому не заміналі. Аднак жа трапіліся на вочы і пад кепскі настрой нейкаму начальству. У выніку, як нам распавялі працаўнікі, кіраўніцтва цэха №8 папрасіла «разабрацца» з кошкай і кацянятамі начальніка цэха №7, дзе стаіць плавільная печка. Начальнік цэха №7 загадаў работнікам спаліць кошку з кацянятамі. Жыўцом!»

*Наша Ніва*

## У Аршанскім раёне ўнук спрабаваў забіць бабулю

**Аршанскім міжраённым аддзелам Следчага камітэта распачата крымінальная справа ў дачыненні да 20-гадовага мясцовага жыхара, які ўчыніў замах на забойства сваёй бабулі.**

Як паведаміла БелаПАН афіцыйны прадстаўнік упраўлення СК па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова, ноччу 28 верасня ў праваахоўныя органы паступіла паведамленне аб тым, што ў цэнтральную гарадскую бальніцу Оршы з горада Барань (Аршанскі раён) з колата-рэзанымі ранамі дастаўлена пенсіянерка 1947 года нараджэння.

На месца здарэння для правядзення неадкладных следчых дзеянняў прыбылі супрацоўнікі Аршанскага міжраённага аддзела СК. Для раскрыцця злачынства былі задзейнічаны сілы следчых падраздзяленняў, органаў унутраных спраў, Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз.

Ужо на першапачатковым этапе расследавання было ўстаноўлена, што ў доме пенсіянеркі яе ўнук з сябрамі на працягу трох дзён распівалі спіртныя напоі. У сувязі з чым жанчына выказала сваю незадаволенасць сваяком у прысутнасці таварышаў. За гэта хлопец нанёс жанчыне некалькі ўдараў нажом.

Дзеянні падазронага следствам кваліфікаваныя па ч. 1 арт. 14, ч. 1 арт. 139 КК (замах на забойства). У дачыненні да яго прыменена мера стрымання ў выглядзе зняволення пад варту.

Пацярпелая цяпер знаходзіцца ва ўстанове аховы здароўя на лячэнні.

***Вячаслаў Будкевіч**, БелаПАН*

# Біскуп Алег Буткевіч асвяціў капліцу ў Шаркаўшчынскім шпіталі

**12 кастрычніка ў парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Шаркаўшчыне адбыліся дзве доўгачаканыя падзеі.**

■ **Лена Колтан-Клімза**, *тэкст;*
**Марына Сінкевіч**, *фота; паводле catholicnews.by*

Пасля святочнай Літургіі ў святыні, дзе з рук біскупа Алега Буткевіча атрымалі сакрамант канфірмацыі каля 80 чалавек рознага ўзросту, вернікаў чакала яшчэ адна важная падзея - асвячэнне капліцы ў цэнтральным раённым шпіталі. Туды і накіраваўся біскуп Алег з пробашчам і мясцовымі вернікамі. Там ужо чакалі галоўны ўрач Станіслаў Стома і старшыня райвыканкама Мікалай Баговіч. Галоўны ўрач прывітаў біскупа словамі: «Як жа даўно мы Вас чакалі». Справа ў тым, што два гады таму адбылося адкрыццё бальніцы. І да гэтага часу тут не было магчымасці для хворых людзей лячыць не толькі цела, але і душу.

Напачатку Ардынарый Віцебскай дыяцэзіі сказаў: «Мы знаходзімся ў «святая святых». Бо менавіта тут, у цяжкія хвіліны свайго жыцця чалавек набліжаецца да Бога. І лепш разумее сэнс Хрыстовых пакут». Пасля цырымоніі асвячэння памяшкання капліцы і Святога Распяцця, які знаходзіцца ў ім, словы прамовіў старшыня райвыканкама: «Без веры чалавек бяссільны». Вельмі сімвалічным стаў падарунак для біскупа – абраз, выкананы ва ўсходнім стылі «Вазнесение Господне». Бо менавіта на нашай Шаркаўшчынскай зямлі побач жывуць хрысціяне праваслаўнага і каталіцкага веравызнання. Ардынарый падзякаваў і пакінуў абраз у дар новаасвечанай капліцы. На заканчэнне пробашч Кшыштаф нагадаў, што ў бліжэйшую суботу ў Літургіі касцёла адзначаецца ўспамін святога Лукі Евангеліста, які з'яўляецца апекуном медыкаў. Святар запрасіў галоўнага ўрача і ўвесь медыцынскі персанал на супольную малітву.

Прыгожы сонечны восеньскі дзень, спадзяюся, стане запамінальным для Шаркаўшчынскіх вернікаў.



## Аўташколы абавязалі павялічыць час падрыхтоўкі вадзіцеляў, аўтаўладальнікаў — выкарыстоўваць зімовыя шыны і спецыяльныя крэслы для перавозкі дзяцей

**Аляксандр Лукашэнка ўнёс змяненні і дапаўненні ў свой указ № 551 ад 28 лістапада 2005 года «Аб мерах па павышэнні бяспекі дарожнага руху», паведамляе прэс-служба прэзідэнта.**

Новым указам, № 483, з 40 да 50 гадзін павялічваецца час навучання практычнаму кіраванню аўтамабілем пры падрыхтоўцы вадзіцеляў механічных транспартных сродкаў катэгорыі B. Пры гэтым аўташколам даецца чатырохмесячны тэрмін для арганізацыі падрыхтоўкі вадзіцеляў у адпаведнасці з новымі патрабаваннямі.

Прадугледжваецца абавязковае выкарыстанне з 1 снежня па 1 сакавіка зімовых шын на аўтамабілях з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай да 3,5 т, легкавых і грузапасажырскіх аўтамабілях масай больш за 3,5 т, а таксама аўтобусах масай да 5 т.

Устанаўліваецца таксама абавязак перавозкі дзяцей да 12 гадоў у легкавым аўтамабілі з выкарыстаннем дзіцячых утрымальных прыстасаванняў ці іншых сродкаў, якія дазваляюць бяспечна прышпіліць дзіця пры дапамозе рамянёў бяспекі (акрамя выпадкаў, калі рост дзіцяці перавышае 150 см, а таксама пры перавозцы ў аўтамабілі-таксі).

Змяняецца мінімальная ступень прапускання святла для ветравога шкла транспартнага сродку, пры якой дапускаецца яго ўдзел у дарожным руху, з 75 да 70%.

Да элементаў дарогі аднесены размешчаныя на праезнай частцы дарогі пасадачныя пляцоўкі і астраўкі бяспекі, што дазволіць распаўсюдзіць абавязак уладальнікаў дарог па ўтрыманні элементаў дарог у бяспечным для руху стане на ўказаныя збудаванні.

Акрамя таго, уводзяцца новыя віды дарожнай разметкі для арганізацыі руху веласіпедаў, а таксама для абазначэння кірункаў руху па палосах на скрыжаваннях са складанай канфігурацыяй.

Указ набывае моц праз тры месяцы пасля яго афіцыйнага апублікавання.

Як адзначае прэс-служба, дакумент скіраваны на павышэнне бяспекі дарожнага руху і ўдасканаленне правіл дарожнага руху з улікам практыкі іх прымянення.

***Андрэй Серада**, БелаПАН*



**Кліменцій Кожан,** краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні. *м. Германавічы.*

# Бітва, пра якую мы павінны памятаць

**Працяг.**
*Пачатак ў №41(757)*

Пасол германскага імператара да Васіля III барон Сігізмунд Герберштэйн, едучы ў Маскву, наведаў у Вільні ў 1517 годзе палонных І.А.Чаляднiна і М.І. Булгакава-Голіцу і размаўляў з імі пра бітву пад Оршай. У сваіх зпісках ён расказаў пра манеўр К. Астрожскага, што навёў непрыяцеля на гарматы і пра разгром маскоўскага войска: "Ліцвіны, наўмысна адступіўшы да таго месца, дзе ў іх былі схаваны гарматы, накіравалі іх супраць маскавітаў, якія насядалі, і паразілі іх заднія шэрагі, што выстраіліся ў рэзерве, але занадта скучаныя, унеслі замяшанне ў іх шэрагі і рассеялі. Такі нечаканы баявы прыём прывёў маскавітаў у жах, бо яны лічылі, што ў небяспецы знаходзіцца першы шэраг, які б'ецца з ворагам, прыйшоўшы ў замяшанне і лічачы, што першыя шэрагі ўжо разбіты, яны кінуліся наўцёкі. Ліцвіны, разгарнуўшы і накіраваўшы ўсе свае сілы, пераследавалі іх, гналі і забівалі. Убачыўшы гэтыя ўцёкі, адступілі і абодва рускія флангі. Толькі ноч і лясы спынілі гэтае вынішчэнне".

М. Стрыйкоўскі такама прыводзіць жахлівыя сцэны гэтых уцёкаў. У паніцы маскоўскія коннікі ўцякалі ў лясы, балоты, кідаліся ў Днепр і танулі, а пераможцы гналі іх і забівалі. Параненыя крычалі ім: "Не сечи голову!", а цяжка параненыя: "Дабей!". Кроў забітых была не толькі на палях, але і сцякала ў раку Крапіўну, вада якой стала крывавай. А. Гваніні адзначыў, што рака Крапіўна паміж Оршай і Дуброўнай з-за вялікай колькасці трупаў замарудзіла свой бег. Шмат маскоўцаў падчас уцёкаў патанула ў рацэ.

М.Бельскі, улічваючы пагоню за ўцекачамі, распавядае, што бітва цягнулася аж да заходу сонца. Коннікі К. Астрожскага працягвалі пераследаванне ажно да васьмі літоўскіх міляў (на 60 кіламетраў). Адны з літоўскіх коннікаў вярнуліся назад апоўначы, іншыя нават назаўтра. З сабою яны вялі вялікую колькасць палонных. І расійскія гісторыкі гавораць тое ж самае пра заканчэнне Аршанскай бітвы. Так, М.М.Карамзін у "Истории государства Российского" адзначыў: "Ліцвіны ніколі не атрымлівалі такой славутай перамогі над расіянамі: гналі, рэзалі, тапілі іх у Дняпры і Крапіўне; целамі ўсеялі палі паміж Оршай і Дуброўнай…"

Страты бакоў у Аршанскай бітве ў летапісах і хроніках прыводзяцца прыкладна аднолькавыя. М.М.Карамзін і С.М.Салаўёў прыводзяць лічбу забітых воінаў у маскоўскім войску: 30000 чалавек. Храністы М. Стрыйкоўскі, М. Бельскі і летапісы ўдакладняюць лічбу забітых на полі бою і тых, хто загінуў ва ўцёках – 40000 чалавек. Страты маскоўскага войска палоннымі перавышалі 5000 чалавек. У палон трапілі галоўныя ваяводы І.А.Чаляднін і М.І.Булгакаў-Голіца, 8 вярхоўных ваяводаў (што камандавалі аддзеламі па некалькі тысяч чалавек кожны), 37 начальнікаў ніжэйшага рангу, 2000 дзяцей баярскіх і больш за 2000 іншых воінаў. 20000 трафейных коней і палова вайсковага абозу былі перададзены пераможцам. Сярод трафеяў былі ўсе маскоўскія сцягі і агнястрэльная зброя. Трыумф князя Канстанціна Астрожскага быў поўны.

Як сведчыць храніст М. Бельскі, страты войска пераможцаў былі невялікія. Загінулі толькі чатыры знатныя паны, а рыцараў каля пяцісот чалавек. Колькасць загінуўшых простага паходжання ён не прыводзіць. Затое ў гэтай бітве было шмат параненых. Раны ў большасці былі сечаныя, ад удараў шабель.

На наступны дзень святкавалі перамогу. Быў адслужаны праваслаўны малебен у "чэсць Святой Троіцы і на хвалу Госпада Бога" і каталіцкі малебен. Падчас урачыстага абеду, на які былі прыведзены палонныя ваяводы, Канстанцін Астрожскі павіншаваў сваіх ваяводаў, ротмістраў і рыцараў з перамогай. Пазней, 3 снежня 1514 года, кароль Польскі і Вялікі князь Літоўскі і Рускі Жыгімонт наладзіў у Вільні ўрачысты прыём у гонар гетмана Астрожскага і рыцараў-пераможцаў. Аб перамозе былі пасланы каралеўскія граматы да манархаў Еўропы. Да некаторых з іх паслалі невялікія групы палонных. Палонныя ваяводы і дзеці баярскія былі разасланыя ў розныя замкі ў Літве, а простыя воіны паселеныя ў вялікакняскіх і шляхецкіх маёнтках для выкарыстання на сельскагаспадарчых працах. І. Чаляднін і М. Булгакаў-Голіца знаходзіліся ў вязніцы ў сталіцы ВКЛ Вільні. Дзясяткі гадоў заставаліся палонныя ў Вільні і іншых гарадах, крэпасцях, гаспадарскіх дварах і волсцях ВКЛ. Маскоўскі ўрад не цікавіўся сваімі палоннымі суайчыннікамі. Сам Вялікі князь Маскоўскі Васіль Іванавіч заявіў, што для яго "той, хто трапіў у палон, - мёртвы". І.А.Чаляднін памёр у Вільні праз некалькі гадоў. М.І.Булгакаў-Голіца і князь Іван Сямёнавіч Селяхоўскі вярнуліся на радзіму толькі ў 1552 годзе падчас панавання цара Івана IV. М.І. Булгакаў-Голіца памёр праз два гады манахам пад імем Іона.

Пасля Аршанскай бітвы К. Астрожскі зрабіў у Вільні багатую фундацыю царкве Свята-Духаўскага манастыра ў падзяку Богу за дараваную яму перамогу. У памяць гэтай фундацыі была звонку прымацавана мармуровая дошка з надпісам аб фундацыі К. Астрожскага за дараваную яму Богам перамогу над непрыяцелем і супастатам Праваслаўнай царквы Вялікім князем Маскоўскім.

У 1520-1530 гадах невядомы нямецкі мастак, магчыма, удзельнік бітвы пад Оршай, намаляваў карціну, якая лічыцца першай у батальным жывапісе Усходняй Еўропы. Хутка пра Аршанскую бітву стала вядома ў Заходняй Еўропе. У другой палове 1514 года быў выдадзены па-нямецку ў Нюрнбергу адмысловы лісток з апісаннем бітвы. У 1515 годзе зноў было надрукавана ў Нюрнбергу апісанне Аршанскай бітвы.

Бітву пад Оршай занатавалі ўсе тагачасныя летапісы, у тым ліку маскоўскія і наўгародскія, а таксама замежныя хронікі. Аршанская бітва 1514 года пакінула глыбокі след у тагачаснай літоўскай (беларускай), украінскай і польскай літаратуры. У Валынскім кароткім летапісе была змешчана "Пахвала князю Астрожскаму" – сапраўдны літаратурны твор. З таго часу захавалася народная песня пра перамогу пад Оршай "Ой, у нядзельку параненька ўзышло сонца хмарненька". Бітва 8 верасня 1514 года мела і дыпламатычныя наступствы. Германскі імператар Максімілiян I пасля Аршанскай бітвы разарваў саюз з Васілём III. Гэты саюз прадугледжваў падзел Польшчы і ВКЛ паміж Германскай імперыяй і Вялікім княствам Маскоўскім. Аршанская бітва замацавала ўсходнюю мяжу Літвы (Беларусі), якая існавала да канца XVIII стагоддзя. Бітва пад Оршай вывучалася ў вайсковых вучылішчах дарэвалюцыйнай Расіі. Яна прыведзена ў Расійскай ваеннай энцыклапедыі (1914) як узор баявога майстэрства літоўскіх (беларускіх) рыцараў, прыклад вайсковага таленту К. Астрожскага і вельмі ўдалай аперацыі. Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 года з'яўляецца славутай старонкай беларускай вайсковай гісторыі. Яна ўпісваецца ў агульны шэраг гераічных перамог войска ВКЛ на працягу некалькіх стагоддзяў падчас існавання нашай самастойнай дзяржавы, калі войска ВКЛ адстойвала незалежнасць нашай краіны. Дата 8 верасня таму і з'яўляецца Днём Беларускай Вайсковай Славы. Кожны год патрыятычная грамадскасць Беларусі адзначае яго як адно з галоўных нацыянальных святаў. Аднак доўгі час пра гэты дзень сваёй вайсковай славы беларусы не ведалі. У савецкі час у падручніках нічога пра Аршанскую бітву не пісалі, як і ўвогуле пра захопніцкую палітыку Расіі ў дачыненнні да Беларусі. Яна не ўпісвалася ні ў афіцыйную гісторыю Расійскай імперыі, ні ў афіцыйную гісторыю СССР, як нашчадка Расійскай імперыі. Не пісалі пра яе і ў гісторыі БССР, як часткі СССР. Толькі асобныя расійскія гісторыкі (М.М.Карамзін, С.М.Салаўёў) ды Расійская ваенная энцыклапедыя ў 1914 годзе згадвалі яе. Польскія гісторыкі адносілі Аршанскую бітву 1514 года да польскай вайсковай гісторыі, перабольшвалі ўдзел польскіх вайсковых аддзелаў у ходзе бітвы.



Бітва пад Оршай, гравюра 1597 года.

У 90-х гадах XX стагоддзя літоўскія гісторыкі цалкам прыпісвалі яе літоўцам, бо наша агульная дзяржава насіла назву Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, скарочана – Літоўскае. Наўмысна блытаючы палітонім (назву грамадзян дзяржавы) і этнонім (назву нацыі, народнасці), літоўскія гісторыкі прыпісваюць літоўцам (жамойтам) падзеі беларускай гісторыі.

Артыкулы прафесара Анатоля Грыцкевіча адыгралі вялікую ролю ў пашырэнні ведаў па гісторыі Беларусі і ў патрыятычным выхаванні насельніцтва.

Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі Дзень 8 верасня пачаў святкавацца беларускімі патрыётамі як Дзень Беларускай Вайсковай Славы. Менавіта 8 верасня 1992 года на Плошчы Незалежнасці ў Мінску беларусы-афіцэры прымалі вайсковую прысягу на вернасць Беларусі. У прыняцці прысягі прымалі ўдзел афіцэры ў адстаўцы і палітычныя дзеячы Беларускага Народнага Фронту. Побач стаялі Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк і Анатоль Грыцкевіч. 8 верасня 1992 года ў "Народнай газеце" быў надрукаваны артыкул доктара гістарычных навук, прафесара Анатоля Грыцкевіча "Бітва пад Оршай". У той жа дзень ён быў надрукаваны на рускай мове ў газеце "Во славу Родины", органе Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. У той час і афіцыйныя органы друку шукалі карані беларускай вайсковай гісторыі. Тады ў 6-м нумары за 1992 год часопіса "Спадчына" быў надрукаваны артыкул Анатоля Грыцкевіча "Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 года". Паколькі наклад часопіса меў тады каля 9000 асобнікаў, а часопіс выпісвалі шматлікія падпісчыкі, то пра бітву пад Оршай даведаліся многія беларусы не толькі з газет, а і з часопіса "Спадчына". Ад таго часу кожны год прафесар Анатоль Грыцкевіч друкаваў артыкулы пра Аршанскую бітву ў розных газетах. Мікола Ермаловіч, прачытаўшы артыкул у часопісе, сказаў А. Грыцкевічу: "Мне цяпер няма неабходнасці вывучаць дакументы. Тут усё сказана". Ён узяў за аснову гэты артыкул, калі ў сваёй апошняй кнізе "Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае" (Мінск, 2000) пісаў старонкі пра Аршанскую бітву. Ад часу публікацыі Анатоля Грыцкевіча 1992 года і пазнейшых гадоў Аршанская бітва 1514 года стала агульнавядомай. На аснове артыкула ў часопісе змешчаны артыкулы Анатоля Грыцкевіча пра Аршанскую бітву ў 1-м томе "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (Мінск, 1993, с. 187-188) і ў 1-м томе "Беларускай Энцыклапедыі" (Мінск, 1996, с. 537-538). У далейшым А. Грыцкевіч унёс удакладненні ў тэкст артыкула ў часопісе "Спадчына" (1992, №6) і яны былі ўлічаны ў "Беларускай Энцыклапедыі". У 1-м томе "Энцыклапедыі Вялікае Княства Літоўскае" кіраўніцтва Беларускай Энцыклапедыі не ўсё гэта ўлічыла.

За апошнія гады незалежнай Беларусі шмат напісана пра вайсковую гісторыю Беларусі, у тым ліку і пра дачыненні паміж ВКЛ і Вялікім княствам Маскоўскім. Адносіны паміж імі былі рознымі – былі і мірныя гады, былі і жорсткія знішчальныя войны.

*Заканчэнне ў наступным нумары*







Памятная манета, выпушчаная да перамогі ў Аршанскай бітве Нацыянальным банкам Украіны.

